




# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».
— *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№ 420 Студзень 1995
Год выд. 44

BIELARUS / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## *З НОВЫМ 1995 ГОДАМ — ГОДАМ АБАРОНЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ!*

### ВОЛЯЛЮБНАЯ ЧАЧНЯ — ЗНАК ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Трагічная драма Чачні, што разыгрываецца цяпер перад вачыма цэлага сьвету, паказала не толькі імпэрскую агрэсыўнасьць крамлёўскіх палітыкаў і безаглядную жорсткасьць расейскае ваеншчыны, але й духовую моц чачэнскага народу, ягоную ўсеагульную нязломнасьць у абароне свае незалежнасьці. Агрэсыўная няўклюднасьць маскоўскіх дыпляматаў і генэралаў у дачыненьні да волялюбнае Чачні, хлусьня, якою расейскі ўрад і армія суправаджаюць свае ваенныя дзеяньні, паказалі, што бальшавізм яшчэ трывала сядзіць за сьценамі Крамля. Пагроза адтуль разыходзіцца ўва ўсе бакі, не мінаючы і Беларусі.

Сымбалічна, што на сьцягу незалежнай Чачні праз усю даўжыню зелёнай палатніны праходзіць бел-чырвона-белая паласа. Але не толькі ў гэтым падабенства паміж геаграфічна аддаленымі народамі Чачні і Беларусі. Лучыць іх і змаганьне за тыя самыя ідэалы нацыянальнай свабоды, за права быць гаспадаром на сваёй зямлі. Чачэнцы сталі ўсе як адзін на абарону гэтага права, і нельга не захапляцца аднадушнасьцяй іхнае абароны.

У гэты лёсавызначальны для чачэнскага народу мамэнт варта прыгадаць гістарычную салідарнасьць беларусаў з чачэнскім вызвольным рухам. У гадох, калі над народамі былога Савецкага Саюзу панаваў камуністычны таталітарызм, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, асабліва ў асобе ейнага Старшыні (1943-1970 гг.) Міколы Абрамчыка, цесна супрацоўнічала з прадстаўнікамі народаў Паўночнага Каўказу, у тым ліку чачэнскага народу, у г. зв. Парыжскім Блёку ды ў іншых міжнародных арганізацыях.

Сёньня, калі чачэнцы сталі на абарону свае незалежнасьці, беларусы як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў замежжы салідарызуюцца з вызвольным змаганьнем Чачні. Газэта «Свабода», прыкладам, падала: «Апытаныя на менскіх вуліцах у сувязі з чачэнскімі падзеямі людзі гаварылі, што з Расеяй трэба быць пільнымі, а некаторыя выказалі гатоўнасьць пры патрэбе бараніць незалежнасьць са зброяй у руках».

Пакуль да зброі, трэба паглыбляць у нашым народзе нацыянальную сьвядомасьць, умацоўваць дзяржаўную незалежнасьць, пашыраць міжнародныя кантакты. Гледзячы на прыклад змаганьня Чачні за сваю волю, нельга не падкрэсьліць факту, што праявы таго самага агрэсыўнага вялікадзяржаўніцкага мэнталітэту пачалі з абноўленай сілай даваць сябе адчуць апошнім часам на Беларусі. Забарона друку, белыя плямы газэт, гвалт амонаўцаў над мірнымі дэманстрантамі, судовыя пагрозы журналістам і літаратарам з боку чыноўніцкае знаці — усё гэта сымптомы сындрому набытага прамаскоўскага нахабства. У сувязі з тым, што адбываецца ў Чачні, дзе збройнае змаганьне ў выглядзе партызанскай вайны пагражае быць зацяжным і можа пацягнуць за сабой далейшую ваенізацыю расейскага рэжыму з усімі пасьледкамі гэтага, рацыя беларускага нацыянальнага быту дыктуе сёньня ўзмоцненую арыентацыю на Захад, скіраваную на інтэграцыю Беларусі ў эўрапейскія палітычныя і абаронныя сыстэмы.

### З НОВЫМ ГОДАМ!

Ларыса Геніюш

*З Новым Годам, Суродзічы, да Вас сэрцам ірвуся*
*І мне хочацца сяньня, як жыць,*
*Сесьці побач з усімі за стол беларускі,*
*І, як долю, супольна Куцьцю разьдзяліць.*
*Пажадаць Вам здароўя, удачы, дастатку,*
*Гэткай сілы гранітнай у час лютых нягод,*
*Дабрыні беларускай, цяпла з родных хатаў,*
*Што Вас вечарам гэтым чакаюць штогод.*
*Няхай слова ляціць, бо дарогі інакшай,*
*Каб сустрэць Вас хоць сьвятам, няма для мяне,*
*Вы галінкі, крывінкі, Вы костачкі нашыя,*
*У далёкай, ўжо роднай для Вас старане.*
*Усё-ж гнёзды старыя існуюць на сьвеце,*
*Ёсьць той бацькаўскі кут дарагі і сьвяты,*
*Дык ад нас ў Дзень Калядны вітаньні прымеце,*
*Няхай вольна Вам будзе і добра, Браты!*
*Сяньня белы марозік і зь ветрам гамонка,*
*Хутка нашы дарогі пакрыюць сьнягі,*
*З Новым Годам, са Сьвятам, Браты і Сястронкі,*
*Род наш ўсюды раскіданы і дарагі!*
*1974-75*

### БЕДНАЯ НЕ БЕЛАРУСКАЯ МОВА, А ГЛАВА Ў ПРЭЗЫДЭНТА ЛУКАШЭНКІ

Прэзыдэнт Лукашэнка, выступаючы на сэсіі Гомельскага гарсавету, тлумачыў дэпутатам, чаму ён не гаворыць па-беларуску. Бо беларуская мова, бачыце, «бедная».

Бедная? «Русско-белорусский словарь» і «Беларуска-рускі слоўнік», выдадзеныя ў Менску ў 1980-х гадох, маюць у сабе кожны па больш як сто тысячаў слоў. Дык бедная не мова, а бедна ў галаве ў сп. Лукашэнкі.

Як ведама, у штодзённым жыцьці чалавек карыстаецца толькі некалькімі тысячамі слоў. З усіх пісьменьнікаў сьвету найбольшы запас слоў налічылі ў Шэкспіра — сямнаццаць тысячаў.

Цікава, які запас слоў беларускае мовы ў сп. Лукашэнкі? Але і тыя, што ў яго ёсьць, ён ужывае своеасабліва. Гэтак, на сустрэчы з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацыяў 26 сьнежня летась, Прэзыдэнт Лукашэнка, памахваючы рытарычнай палкай на непаслухмяных журналістаў, заявіў, («Звязда», 28.XII): «Я прыйшоў як **мінімум** на 10 гадоў, і журналістам да гэтага трэба рыхтавацца».

Не «як мінімум», а як максымум. Прэзыдэнт слаба азнаёмлены ня толькі зь беларускай мовай, але, відаць, і з Канстытуцыяй свае дзяржавы, бо ў Канстытуцыі (Артыкул 9) сказана: «Тэрмін паўнамоцтваў Прэзыдэнта — пяць гадоў. Адна і тая-ж асоба можа быць Прэзыдэнтам ня больш двух тэрмінаў», гэта значыць дзесяць гадоў, **максымум**, а не «мінімум.

**А.Б.**

### МУЧАНІЦА ЛАРЫСА ГЕНІЮШ — СЫМБАЛЬ

Удумлівы й сваечасовы артыкул— разважаньні аб каназізацыі мучаніцы Ларысы Геніюш (гл. «Беларус», нр. 419, 1994) Валянціна Трыгубовіч закончыла пытаньнем: «Што думаюць пра гэта беларусы ў вольным сьвеце?»

Ня маючы ўпаўнаважаньня гаварыць ад імя «беларусаў у вольным сьвеце», аднак жывучы даўгі час на эміграцыі і добра ведаючы палітычныя пераканаьні дзейнае нацыянальнае дыяспары, я выкажу таму свой пагляд, пагляд майго пакаленьня ды, у значнай меры, пагляд нацыянальна актыўнае часткі эміграцыі.

Беларуская нацыянальная эміграцыя ўважала Ларысу Геніюш беларускай сьвятой. Сьвятасьць ейная была ў моцнай веры, мацніні волі, адданасьці й любасьці да ўсяго беларускага, пашане і ўсьведамленьні беларускае мінуўшчыны ды непахіснай перакананасьці ў дзяржаўнай будучыні Беларусі. Ларыса Геніюш была для беларускай эміграцыі нацыянальным дысыдэнтам, не зламаным і не саступіўшым у пераканаьнях перад камуністычнай сыстэмай. Эміграцыя была заўсёды злучаная духова з Ларысай Геніюш і пачуцьці былі ўзаемныя. Штогоду ва ўсе куткі эміграцыі паэтка слала свае цудоўныя вершы–перажываньні, яны друкаваліся, дакумэнтаваліся, часта бязь ейнага падпісу, што пазьней спрычыняўся да няўключаньня гэтых выдатных твораў у дасюлешнія зборнічкі. Прыгэтым, Ларыса Геніюш не баялася трымаць лучнасьць з эміграцыяй: у часы адзначаньня 200-годзьдзя дзяржаўнасьці ЗША, на адзін зь беларускіх фэстываляў у штаце Нью-Джэрзі, яна прыслала гэткія радкі:

> Благаслаўлёна тая зямля —
> і быць Ёй свабоднаю вечна! —
> што брацьцям маім прытулак дала
> ў сям'і сваёй чалавечнай.

Гэты верш быў зачытаны ды сустрэты авацыяй апладысмэнтаў блізу чатырохтысячнае аўдыторыі!

Для майго-ж пакаленьня, якое ў грамадзкае жыцьцё ўвайшло ў гады вайны, але якое ўсё-ж яшчэ ня было закранутае нячувана жудасным фэнамэнам «гомо советикус», Ларыса Геніюш і ейная творчасьць сталіся сымбалем, які даваў адрэналін для нашае дзейнасьці на эміграцыі. Калі Ларыса Геніюш, зьняважаная й зьняволеная, высака трымала нацыянальны гонар, дык пагатоў мы, жывучы ў вольным сьвеце, адчувалі сваім абавязкам і гонарам працягваць і шырыць ідэю Беларускае Незалежнасьці, Дзяржаўнасьці. Мы ёй вечна ўдзячныя за гэта.

Што да справы афіцыйнае каназізацыі, дык як выглядае, на вялікі жаль, праваслаўная царква на Беларусі яшчэ не дажыла, каб каназізаваць беларускіх нацыянальных сьвятах.

Але ... цуды бываюць!

**Зора Кіпель**

*Студзень — першы месяц году*
*І дае ён нам нагоду*
*За газэту заплаціць,*
*Каб спакойна год пражыць.*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. за год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвiчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, за якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Шчыра вітаем зь 75-мі ўгодкамі жыцьця, якія споўніліся 1 студзеня сёлета,

**др. БАРЫСА РАГУЛЮ**

змагара за дэмакратычную дзяржаўнасьць Беларусі, першага заступніка Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, вучонага, пэдагога, шматгадовага дзеяча на грамадзкай ніве, шчодрага прыхільнака і супрацоўніка газэты «Беларус».

*Прэзыдыюм Рады БНР*
*Управа Згуртаваньня Беларусаў Канады*
*Каардынацыйны Камітэт Канады*
*Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*
*Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў*
*Управа Фундацыі імя П. Крэчэўскага*
*Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта*
*Рэдакцыя газэты «Беларус»*

# КРАІНАЙ КІРУЮЦЬ МАФІЁЗНЫЯ КЛАНЫ

*Урывак з дакладу дэпутата Сяргея Антончыка на сэсіі Вярхоўнага Савету Беларусі 20 сьнежня 1994 году. Поўны тэкст дакладу зьмешчаны у газэце «Свабода» № 49, сьнежань 1994 г.*

Паважаныя дэпутаты, мы з вамі прынялі закон аб барацьбе са злачынасьцю ў сфэры эканомікі і з карупцыяй. Ён уступіў у сілу 4 жніўня 1993 г. У адпаведнасьць з арт. 1 гэтага закону катэгарычна забараняецца дзяржслужачым, спэцыялістам органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня займацца прадпрымальніцкай дзейнасьцю. Парушальнік гэтага закону павінен быць вызвалены ад пасады, якую ён займае. Спадар прэзыдэнт, ваша правая рука Ціцянкоў плявае на гэты закон, і, знаходзячыся на пасадзе сакратара камісіі Вярхоўнага Савету, адначасова ствараў і ўдзельнічаў у дзейнасьці многіх камэрцыйных структураў, такіх, прыкладам, як СП «Эспрэс-Сэрвіс-Брама», СП «Таймінвэст», камэрцыйнае прадпрыемства фонду «Спадчына Чарнобыля» і іншыя. Некаторыя зь іх выкарыстоўваліся як транзытны канал, па якім скідваліся грошы на перадвыбарчую кампанію Лукашэнкі. Седзячы на мяккім сядзеньні «Мэрсэдэса» Ціцянкова, Лукашэнка складаў тэзісы сваіх перадвыбарчых антыкарупцыйных выступаў. Тэатар абсурду!

І вось яна ўлада! Да мяне зьвяртаюцца тысячы выбаршчыкаў з адзіным пытаньнем: «Чаму нічога ня ідзе да лепшага, хоць Лукашэнка кіруе шэсьць месяцаў? Наадварот, жыцьцё робіцца горшым і горшым». Адказ просты: «По делам их да узнаете их».

У першую чагу новая ўлада засяліла свайго шэфа на лецішча, перад гэтым устанавіўшы пагранасыстэму вакол агароджы. Затым улада забрала ў сваё распараджэньне запаведнікі і народныя промыслы. А пасьля ўказала, што неабходна будаваць у першую чагу.

У адпаведнасьці з рашэньнем управы справаў прэзыдэнта ад 28 верасьня 1994 г. (дакумант зацьверджаны нам. Ціцянковым Кашканом) прадугледжана: за кошт дзяржаўных цэнтралізаваных капітальных укладаў, якія фінансуюцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, у 1994 г. будаваць гатэль у Белавежскай пушчы, там-жа пяць катэджаў. У Бярэзінскім запаведніку яшчэ пяць катэджаў, рэканструяваць у Бешанкавіцкім раёне дом адпачынку. Аздараўленчы комплекс з газіфікацыяй у Заслаўі і — о дзіва! — Цэнтар камэрцыйных сувязяў з гатэльным комплексам па праспэкце Машэрава. Гэта былі першачарговыя задачы савецкай улады ў выкананьні каманды Лукашэнкі.

Потым прыйшоў час раздаваць кватэры. За ўзор быў узяты вопыт Ціцянкова. Ён атрымаў на сям'ю з трох чалавек кватэру большую за 100 кв.м. А далей пачаўся своеасаблівы прэзыдэнцкі рэкет!

18.10.94 Ціцянкоў зьвяртаецца да старшыні Менскага аблвыканкаму Цішкевіча з прапановаю перадаць управе справаў прэзыдэнта памяшканьні для... арганізацыі гандлю з разьліку па адной краме ў раённых цэнтрах і гарадах абласнога падпарадкаваньня. Вось узор сьціпласьці! Кожнаму члену прэзыдэнцкай каманды па краме, ды ня простай! Цытую ліст Ціцянкова: *«Пры рашэньні гэтага пытаньня неабходна ўлічыць, каб памяшканьні, якія будуць выдзяляцца, былі разьмешчаныя ў цэнтральнай частцы горада альбо ў іншых месцах зь інтэнсыўным рухам насельніцтва»*.

28 лістапада 1994 г. стала пачаткам новай эры ва ўзаемаадносінах дзяржаўных структураў з камэрцыйнымі. Такое ня сьнілася нават Кебічу.

У гэты дзень управа справаў прэзыдэнта перадала плошчы па вул. Гарадзкі вал, 7а сумеснаму беларуска-расейска-швайцарскаму прадпрыемству пад офіс. Дзяржаўная маёмасьць трапіла ў рукі фірмы, якая складаецца з трох грамадзянаў Беларусі і іхных родных, якія жывуць за мяжой. Можа быць, прэзыдэнт зноў не заўважыць карупцыі ў гэтым факце?

Перападпарадкаваўшы сабе гаспадарку Атоліна, дзе былыя сакратары ЦК КПБ мелі пэрсанальныя карoў, управа справаў прэзыдэнта зрабіла магутнае фінансавае ўліваньне ў гэтую гаспадарку. Канечне, за кошт бюджэту! Лічу, што пракуратура павінна разабрацца, на што канкрэнта пайшлі дзяржаўныя грошы.

*(«Свабода» № 49, сьнежань 1994)*

### ЗАМЕЖНЫЯ РАДЫЯСТАНЦЫІ ІНФАРМУЮЦЬ «НАРОДНУЮ ГАЗЕТУ»

Менск і далей знаходзіцца ў інфармацыйнай ізаляцыі. Паведамляючы пра вайну ў Чэчні, «Народная газета» ў нумары за 12 сьнежня, пад загалоўкам «ІМПЭРЫЯ ІЗНОЎ РАСХІНУЛА 'МЯДЗЬВЕДЖЫЯ' АБДЫМКІ», паясьніла, адкуль узятыя весткі:

«Учора наша рэпартэрская група цэлы дзень слухала замежныя радыястанцыі, каб даведацца, што адбываецца ў Чэчні. ... Па каналах ІТАР-ТАСС, на наша зьдзіўленьне, поўнацэннай інфармацыі з каўказскага рэгіёну не паступала, а тая, што прыйшла, была далёка ня першай сьвежасьці і няяснай».

### ПАСОЛ ЗША БАЧЫЦЬ БЕЛАРУСЬ НЕЗАЛЕЖНАЙ, БАГАТАЙ

«Веру, што Беларусь будзе незалежнай, сувэрэннай, багатай, стабільнай, дэмакратычнай краінай» — пад гэткім загалоўкам, выказваньнем амэрыканскага пасла ў Менску Кенэта Ялавіца, «Народная газета» (16.12.94) зьмясьціла інтэрв'ю з пасломна тэму прыхільнай палітыкі ЗША ў дачыненьні да Беларусі і добрых ўражаньняў сп. Ялавіца пра Менск.

### *РАМАН ПРА ЭМІГРАЦЫЮ*

Пісьменьнік Іван Чыгрынаў, якому ў сьнежні летась споўнілася 60 год, сказаў, што ягоны новы раман, пад заг. «Памерлі мы ня ўсе», будзе прысьвечаны часткава беларускай палітычнай эміграцыі. «Падзеі будуць разгортвацца да сустрэчы беларусаў сьвету ў Мінску, што адбылася ў мінулым годзе, — сказаў раманіст. — Прыедзе на яе і Масей Зазыба, які ў сорак чацьвёртым падаўся на Захад». («Народная газета», 20.12.94)

# ДЭКЛЯРАЦЫЯ

## *ПРЫНЦЫПАЎ СТВАРЭНЬНЯ ПЕРАДВЫБАРЧАГА БЛЁКУ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ*

Мы, паўнамоцныя прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Беларускай сялянскай партыі, Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай партыі, Партыі Беларускага Народнага Фронту, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, прааналізаваўшы палітычную сытуацыю, якая склалася ў Беларусі напярэдадні выбараў новага вышэйшага органу заканадаўчай улады Рэспублікі Беларусь, заяўляем аб стварэньні перадвыбарчага блёку дэмакратычных сіл, паклаўшы ў аснову наступныя прынцыпы:

— забесьпячэньне правоў асобы, абвешчаных Усеагульнай Дэклярацыяй правоў чалавека, і стварэньне прававой дзяржавы;

— умацаваньне дзяржаўнага сувэрэнітэту; агульнадзяржаўныя інтарэсы маюць бясспрэчны прыярытэт над інтарэсамі клясавымі, партыйнымі, групавымі;

— правядзеньне рашучых рынкавых рэформаў, якія прадугледжваюць:

а) увядзеньне нацыянальнай валюты;

б) зьніжэньне ўзроўню інфляцыі;

в) прыватызацыю дзяржаўнай маёмасьці;

г) рэфармаваньне калгасаў і саўгасаў, стварэньне спрыяльных умоў для разьвіцьця фэрмэрскіх гаспадарак;

— абвяшчэньне ўласнасьці грамадзян і юрыдычных асоб сьвяшчэннай і недатыкальнай, абарона яе ўсёй сілай дзяржаўнай улады)

— стварэньне цывілізаванай сыстэмы сацыяльнай абароненасьці;

— адраджэньне духоўнага жыцьця і нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народу, умацаваньне дзяржаўнасьці беларускай мовы;

— стварэньне грамадзянскай супольнасьці і забесьпячэньне нацыянальна-культурнай аўтаноміі нацыянальных меншасьцяў Беларусі;

— умацаваньне барацьбы са злачыннасьцю.

Гэты блёк утвараецца тэрмінам на 5 год і захоўвае асноўныя прынцыпы сваёй дзейнасьці на працягу чыннасьці новавыбранага Вярхоўнага Савету.

Мы пагаджаемся ў тым, што:

— на час выбарчай кампаніі ствараецца адзіны каардынацыйны орган на базе перадвыбарчага камітэту БНФ для таго, каб забясьпечыць вылучэньне па кожнай акрузе аднаго лепшага кандыдата ў дэпутаты зь ліку сяброў нашых партый і аб'яднаць інтэлектуальныя, тэхнічныя і арганізацыйныя магчымасьці нашых арганізацый;

— кожная партыя, якая правядзе ў склад новага Вярхоўнага Савету неабходную для стварэньня фракцыі колькасьць дэпутатаў, будзе мець права ўтварыць сваю фракцыю для абароны і рэалізацыі праграмных мэтаў гэтай партыі.

Да 5 лютага 1995 года Дэклярацыя адкрытая для падпісаньня тымі партыямі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь, якія падзяляюць вышэйпрыведзеныя прынцыпы дзейнасьці блёку.

Падпісалі:*

Ад БСДГ — Алег Трусаў
Ад БХДП — Мікалай Крукоўскі
Ад БСП — Яўген Лугін
Ад БНФ — Зянон Пазьняк
Ад НДПБ — Алесь Апрышка

*** Колькасьць падпісаў на 12.01.1995 г.**

Вядзьмак Лысагорскі

### ЛУКА МУДЗІШЧАЎ — ПРЭЗЫДЭНТ
(Урывак)

Падохлі сьвіньні. Мруць каровы.
Чым ашчасьлівіць свай народ?
І супраць беларускай мовы
Мудзішчаў аб'явіў паход.

Хоць як падумаць — сьмех дый сорам.
З кім ваяваць Лука гатоў?
Мудзішчаву ледзь-ледзь за сорак,
А МОВЕ — тысячы гадоў.

Жрэ беларускія каўбасы,
Па-беларуску-ж ні гу-гу.
Ды за такое папусы
Яго пусьціліб на рагу.

Злысеў — так грыз граніт навукі,
Аж дзьве закончыў ВЭ-НЭ-У,
А як узяў уладу ў рукі,
Спыніўся конь. Ні тпру, ні ну.

Затое сябра ён у Боры,
Бо Ельцын — «старший брат родной».
І ўсе Славянскія Саборы
Ваююць за Луку сьцяной.

Курс геаграфіі асіліў
І ўсяму сьвету далажыў,
Што нарадзіўся ён з Расіяй
На самай-саменькай мяжы.

Ў паклоне пазваночнік хруснуў
І сьлёзы шчасьця пацяклі.
І стаў Лука надзіва «рюскім»,
Русей за Бору у Крамлі.

*(«Свабода« № 40, сьнежань 1994)*

### ШУШКЕВІЧ ПРА ЛУКАШЭНКУ І КЕБІЧА

«З пункту гледжаньня мітусьні Лукашэнка ў дзесяць разоў пераўзыходзіць Кебіча. Ён можа ў пятніцу сказаць адно, а ў панядзелак сьцьвярджаць, што думаў зусім іншае».

Гэткую характарыстыку даў Прэзыдэнту Беларусі былы Старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч. Сп. Шушкевіч сказаў, што ён мае намер выставіць сваю кандыдатуру ў наступны Вярхоўны Савет, выбары ў які адбудуцца 14 траўня сёлета. («Звязда», 14.12.94).

### *ПРА ПАЛІТЫКУ ЗША НА ЎСХОДЗЕ ЭЎРОПЫ*

Вашынгтонская Цэнтральна-ўсходняэўрапейская Кааліцыя Арганізацыяў (ЦУЭК), у склад якое ўваходзяць 16 арганізацыяў, у тым ліку Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі (старшыня сп. Расьціслаў Завістовіч), у сьнежні летась зрабіла заяву пра замежную палітыку ЗША. ЦУЭК заклікала ўрад Прэзыдэнта Клінтана і Кангрэс Амэрыкі больш станоўка бараніць дэмакратыю і незалежнасьць цэнтральна-ўсходняэўрапейскіх дзяржаваў перад імпэрскімі пасяганьнямі на іх з боку Расеі.

Сярод мерапрыемстваў рэкамэндаваных кааліцыяй амэрыканскім уладам: інтэграцыя краінаў Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы ў эрапейскія палітычныя, эканамічныя і абаронныя сыстэмы, больш доступ да амэрыканскіх рынкаў, падтрымка радыёстанцыяў «Голас Амэрыкі» і «Вольная Эўропа/Радыё Свабода» ды іншыя захады.

## ЦЭНЗАРСКІ НОЖ ПРЭЗЫДЭНТА ЛУКАШЭНКІ

# ЗВЯЗДА

23 снежня 1994 г. пятніца, № 261 (22532)





...а жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ●цана 80 рублёў

*Міхаіл ЧЫГІР:*

## «ДАКЛАД АНТОНЧЫКА ПАВІНЕН БЫЦЬ АПУБЛІКАВАНЫ»

**– Як вы пракаменціруеце абвінавачанні, што гучалі ў ваш адрас у дакладзе Антончыка?**

– У панядзелак на прэс-канферэнцыі ўрада я адкажу на ўсе абвінавачанні. Самае важнае і ганебнае, што ў дакладзе, які названы «Аб карупцыі...», няма аніводнага факта гэтай карупцыі. Фактаў няма, і плюс тут можа быць толькі для палітычнай кар'еры Антончыка (як ён, напэўна, думае), а ў астатнім суцэльны мінус: як для эканомікі, так і для палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы. Я яшчэ вазьму для вывучэння даклад Антончыка, і хвілін 15 у панядзелак на прэс-канферэнцыі спынюся на асноўных момантах, звязаных са мной.

**– Як вы, як прэм'ер-міністр, ставіцеся да сённяшняга выпадку з «белай плямай» замест даклада Антончыка ў «Советской Белоруссии»?**

– Я думаю, як бы ні зрабіла прэса, даклад Антончыка ўсё роўна будзе распаўсюджаны, і ўсе жадаючыя атрымаюць доступ да яго.

**– Але ж Кабінет Міністраў – адзін з сузаснавальнікаў «Советской Белоруссии». Вы таксама несяце пэўную адказнасць за тое, што газета выйшла з «белай плямай».**

– Я сёння прэсы яшчэ не бачыў, і чаму так адбылося, не магу сказаць. Аднак я лічу, што гэты матэрыял павінен быць апублікаваны, бо ён усё роўна будзе апублікаваны, рана ці позна.

**– Антончык абвінаваціў вас у выдачы крэдытаў, выгаднасць якіх для дзяржавы выклікае сумненне...**

– З пазіцый мінулага часу заўсёды можна лічыць, выгадна ці не. Калі ж лічыць напрамую, усе гэтыя здзелкі прынеслі вялізны прыбытак, найперш для банка. Калі размова ідзе аб тым, што крэдыты выдаваліся ў рублях, а аддаваліся валютай і што гэта нібыта нейкае парушэнне – для спецыялістаў тут сумненняў не ўзнікае.

**– Як вы ставіцеся да адставак членаў каманды Прэзідэнта?**

– Я так не зрабіў бы, і лічу, што так не трэба рабіць: калі нейкая цяжкасць – адразу ў адстаўку.

**– Вы іх асуджаеце?**

– Так, асуджаю.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ,**
**Ігар СІНЯКЕВІЧ.**

## Стэнаграма выступлення народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сяргея Антончыка на сесіі парламента 20 снежня г. г.

**Публікуючы стэнаграму выступлення дэпутата С. Антончыка і спрэчкі па гэтаму выступленню на сесіі Вярхоўнага Савета, рэдакцыя «Звязды» зыходзіць з таго неаспрэчнага тэзіса, што газета абавязана інфармаваць сваіх чытачоў аб падзеях, якія адбываюцца ў краіне. Газета не нясе адказнасці за дакладнасць выказаных з трыбуны сесіі фактаў. Гэта прэрагатыва адпаведных органаў, якім даручана да 1 лютага 1995 года правесці патрэбнае расследаванне.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*ДЫСКУСІЙНАЯ ТРЫБУНА*

## СЛУГІ НАРОДА ВЫРАШЫЛІ ЖЫЦЬ ЗНАЧНА ЛЕПШ ЗА СВАІХ ГАСПАДАРОЎ

Нарэшце адбылося! Барацьба з прывілеямі, аб якіх так шмат галасілі дэпутаты на пачатку сваёй дзейнасці, пасляхова скончылася. Поўнай і

парываючы з вытворчай або службовай дзейнасцю, яна захоўваецца не ніжэй за заробак дэпутата, які працуе ў парламенце на прафесій-

кваліфікацыі і вопыту работы ў Вярхоўным Савеце». Парламент захоўвае за былым дэпутатам заработную плату з улікам займаемай пасады на

Усё ў нас будзе. За выключэннем беспрацоўя, бо наш парламент знайшоў спосаб барацьбы з гэтай сацыяльнай хваробай рынкавай эканомікі.

*23 сьнежня 1944 г. быў забаронены выхад «Народнай газеты» з дакладам народнага дэпутата Сяргея Антончыка пра карупцыю ў акружэньні Прэзыдэнта Лукашэнкі. Газэты «Звязда», «Советская Белоруссия» і «Рэспубліка» выйшлі 23 сьнежня зь белымі плямамі. Дзяржаўны Дэпартамант ЗША выказаў 30 сьнежня «заклапочанасьць» фактам цэнзуры ў Беларусі і заклікаў «беларускае кіраўніцтва паважаць права прэсы на свабоду слова». Не пабачыў сьвету і сёлетні першы нумар «Свабоды», датаваны 3.01.95, паколькі ў апошні момант у Дом друку паступіла забарона з адміністрацыі прэзыдэнта.*

### *ЯКОГА ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСІ ПРАДБАЧЫЎ Н. ГІЛЕВІЧ*

У сакавіку летась, як толькі была прынятая Канстытуцыя Беларусі, народны дэпутат і пісьменьнік, пасьлядоўны абаронца незалежнасьці рэспублікі і беларускае мовы, Ніл Гілевіч, які быў супраць уводжаньня інстытуту прэзыдэнцтва, выказаў гэткую перасьцярогу ў дачыненьні да будучага прэзыдэнта Беларусі ў інтэрв'ю тыднёвіку «Наша слова» (30 сакавіка 1994 г.):

«Баюся, што прэзыдэнт у нас хутка ператворыцца ў таго «бацьку з палкай», пра якога яшчэ Аляксей Талстой у сваёй «Истории государства российского...» пісаў, маючы на ўвазе Пятра І: «Он молвил: мне вас жалко, Вы сгинете вконец. Но у меня есть палка. И я вам всем отец!» Пры нашым узроўні культуры і грамадзкай маралі атрымаць такога **«бацьку з палкай»** — небясьпека зусім рэальная. Калі-б бачыў таго, хто, стаўшы прэзыдэнтам, будзе мудрым, інтэлігентным кіраўніком, чалавекам высокай культуры, і калі-б я ведаў, што ёсьць гарантыі перамогі такога чалавека на выбарах, я-б пагадзіўся на прэзыдэнцкую форму кіраваньня. Аднак баюся, што ў нашай сёньняшняй сытуацыі пераможа на прэзыдэнцкіх выбарах іншы чалавек.

*(Працяг на 6-й стар.)*

# 74-Я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

## ЛЁНДАН, АНГЛІЯ

Сьвяткаваньне было арганізаванае алоўнай управай Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі 26 лістапада залі Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адкрыў акадэмію сп. А. Зданковіч, заступнік старшыні ЗБВБ. Вітаючы прысутных, сярод якіх быў пасол Беларусі сп. А. Якавіцкі, ён падкрэсьліў важнасьць гістарычнага чыну случчакоў і зачытаў прывітальныя лісты ад В. Пазьняка, старшыні БНФ; Г. Сурмач, старшыні ЗБС «Бацькаўшчына»; М. Зуя і В. Цярпіцкага, старшыні і сакратара БЦР; П. Гуза, старшыні БЦК ў Вікторыі, Аўстралія.

З рэфэратам на тэму дня выступіла спадарычна І. Дубянецкая. Яна зрабіла глыбокі агляд гістарычных падзеяў двух мінулых стагодзьдзяў. Дакладчыца шмат гаварыла пра нацыянальна-культурнае адраджэньне ў XIX-м стагодзьдзі, дэтальна расказала пра зарадак беларускай нацыянальнай сьвядомасьці у 1980-х гадах. Беларускі рух гэтага пэрыяду пакінуў па сабе нямала літаратуры: камунікаты, адозвы, пэрыёдыка і шмат іншага. Усё, аб чым дакладчыца гаварыла, яна пацьвярджала якраз гэткімі выданьнямі і рознастайнай сымболікай.

Пасьля паўтарагадзіннага дакладу прысутныя выказалі ўдзячнасьць гучнымі воплескамі.

Хвілінай цішыні была ўшанавана памяць случчакоў і ўсіх, хто аддаў сваё жыцьцё, каб жыла Беларусь.

Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну афіцыяльная частка праграмы была закончана.

Сп. Я. Міхалюк, старшыня ЗБВБ, запрасіў прысутных на пачастунак, які ўдала быў нарыхтаваны сп-няй Л. Міхалюк, за што ёй выказваецца шчырая падзяка.

**А. Здановіч**

## ГАЙЛЕНД-ПАРК, НЬЮ-ДЖЭРЗІ

Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў (кіраўнік сп. Міхась Тулейка) годна адзначыла 3-4 сьнежня 74-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. На Беларускім могільніку ў Іст-Брансвіку вэтэраны ўдэкаравалі Помнік Беларускім Героям, Крыж у памяць ахвяраў, што загінулі ў Курапатах, ды магілы беларускіх вэтэранаў.

У нядзелю 4-га сьнежня ў царкве Жыровіцкай Маці Божай а. Васіль Андрэюк адслужыў паніхіду па гераічных случчаках і ўсіх, хто жыцьцё сваё аддаў на службе Бацькаўшчыне. Пасьля багаслужбы адбылася ўрачыстая акадэмія, якую адчыніў сп. Тулейка. Вэтэран амэрыканскае арміі сп. Лявон Шурак прачытаў прысягу на вернасьць сьцягу Амэрыкі. Супольна была адсьпяваная патрыятычная песьня (словы Н. Арсеньневай, музыка М. Куліковіча) «Беларусь наша Маці-Краіна». Айцец Васіль благаславіў сход малітваю. Хвілінаю цішыні прысутныя ўшанавалі памяць памерлых сяброў ЗБАВ. Сп. Тулейка прачытаў прывітаньні ўдзельнікам урачыстасьці ад рэдактара вэтэранскага часапісу «Зважай» сп. Кастуся Акулы і ад сакратара вэтэранскага аддзелу ў Кліўлендзе сп. Кастуся Калошы. Старшыня БАЗА сп. Антон Шукелайць прачытаў атрыманыя зь Беларусі прывітаньні ад БНФ і ЗБС «Бацькаўшчына». Вітаючы аўдыторыю, сп. Шукелайць падзяліўся кароткім успамінам пра адзначэньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня ў Вільні, дзе дакладчыкамі былі самыя ўдзельнікі гэтага збройнага чыну. Айцец Васіль перадаў прывітаньне ад Першаярарха БАПЦ Мітрапаліта Мікалая, парафіяльнае ўправы і ад сябе асабіста. Уступное слова на тэму дня сказаў сп. Тулейка.



*Паніхіда ў царкве Божай Маці Жыровіцкай. Служыць а. Васіль Андрэюк. Фота А. Сільвановіча.*

З рэфэратам пра збройнае змаганьне случчакоў выступіў др. Янка Запруднік. Адзначыўшы, што гістарычныя абставіны, у якіх адбылося змаганьне случчакоў з бальшавікамі, добра насьветленыя ў артыкуле др. Вітаўта Кіпеля ў лістападаўскім нумары «Беларуса», прамоўца засярэдзіў увагу на значэньні публічных ушанаваньняў гэтае падзеі для псыхалёгіі беларусаў.

Фармаваньне нацыянальнага характару залежыць ад шмат якіх фактараў, казаў дакладчык. Да ліку гэткіх фактараў трэба залічыць і гістарычную веду, памяць пра сваіх продкаў, іхныя дасягненьні, іхны гераізм. Веда самых сябе мацуе веру ў сябе.

**З.**

## АДЭЛЯЙДА, АЎСТРАЛІЯ

Беларускае Аб'яднаньне і парафія Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла адзначылі супольна Дзень Героям 27 лістапада. Айцец Міхась адслужыў літургію і паніхіду па случчаках. Спсп. Андрэй Кармінскі і Мікалай Кандрусік трымалі аўстралійскі і беларускі сьцягі. Вельмі ўрачыста сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Ўладзіміра Калесьніковіча.

Адбыўся супольны абед, на пачатку якога прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн і жалобны марш «Сьпі пад курганам герояў». Сп. Колес, старшыня Беларускага Аб'яднаньня прывітаў прысутных, зачытаў атрыманыя прывітаньні і прачытаў рэфэрат на тэму дня па-беларуску і па-ангельску.

Абед суправаджаўся тостамі за незалежную Беларусь і беларускімі народнымі песьнямі.

**У. Акавіты**

## КЛІЎЛЕНД, АГАЁ

Аддзел Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Кліўлендзе адзначыў 74-ыя ўгодкі Слуцкага збройнага чыну 4 сьнежня. У царкве Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ пасьля літургіі настаяцель прат. Міхась Страпко адслужыў паніхіду па слуцкіх змагарох, ахвярах камунізму ды ўсіх, хто аддаў жыцьцё за Бацькаўшчыну. У часе службы стала ганаровая варта, Алесь Касперовіч і Эдвард Сяргеевіч, зь беларускім і амэрыканскім сьцягамі. Прат. Міхась сказаў добрую казань на тэму дня.



*Удзельнікі сьвяткавальнае праграмы і хору «Васілёк» на 74-х угодках Слуцкага збройнага чыну ў Кліўлендзе. Фота К. Калошы.*

Адбыўся супольны абед у царкоўнай залі, добра падрыхтаваны. Сцэна залі была ўпрыгожана надпісамі, сымбалічнай магілай з крыжам, кветкамі, беларускім і амэрыканскім сьцягамі. Пры ўваходзе сп. Андрэй Стрэчань прышпільваў усім бел-чырвона-белую стужку.

Урачыстую акадэмію адчыніў сакратар аддзелу вэтэранаў Кастусь Калоша. Пасьля амэрыканскага гімну была ўшанаваная памяць герояў Бацькаўшчыны. Ірa Врэцін й Ніна Кэртэш ўзлажылі вянок на сымбалічную магілу. Прагучэў супольна адсьпяваны жалобны марш «Сьпі пад курганам герояў». У сваім уступным прывітальным слове К. Калоша зазначыў, што цяпер нам прыямней ушаноўваць Слуцкія ўгодкі, бо робім гэта разам з нашымі суродзічамі на Бацькаўшчыне.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў старшыня аддзелу БАЗА Янка Ханенка. Ён нагадаў, што беларуская грамада ў Кліўлендзе штагоду на працягу 36 гадоў урачыста сьвяткавала гэтыя ўгодкі, як гэта рабіла ва ўсіх вольных краінах беларуская эміграцыя.

А на Беларусі ўрад да гэтага часу ня прызнаў гэтыя ўгодкі нацыянальным сьвятам, а таксама прэса мала піша аб гэтым. Тым ня менш, некаторыя грамадзкія й палітычныя арганізацыі на Бацькаўшчыне як у Менску, так і на Случчыне, урачыста адзначылі сёлетнія ўгодкі. Таму мы на эміграцыі, сказаў прамоўца, мусім далей перахоўваць памяць пра Слуцкіх герояў і будзем спадзявацца, што ўгодкі Слуцкага паўстаньня стануцца афіцыйным нацыянальным сьвятам.

Былі зачытаныя прывітаньні з Аўстраліі ад Беларускай Цэнтральнай Рады (М. Зуй), зь Беларусі ад БНФ «Адраджэньне» ды ад ЗБС «Бацькаўшчына» (Ганна Сурмач).

На заканчэньне жаночы хор «Васілёк» пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч і акампанімэнт Фёдара Паўлаўца добра выканаў сем песьняў — жалобных, народных і патрыятычных. Усе разам адсьпявалі беларускі нацыянальны гім «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». **К.П.**

## ЧЫКАГА

Беларусы Чыкага, арганізаваныя ў Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Радзе пры Беларускім праваслаўным прыходзе Сьв. Юр'я, ушанавалі ўгодкі Слуцкага збройнага чыну 27 лістапада. Ініцыятарам сьвяткаваньня была ўправа БАН Рады на чале са старшынём Міхасём Каленікам.

Пасьля сьв. літургіі і паніхіды, адпраўленых а. Алегам Мірановічам (ганаровую варту са сьцягамі трымалі амэрыканскі беларус Юрка Каленік і грамадзянін РБ Віктар Гірэль) адбылася хаўтурная ўрачыстасьць з рэфэратам і абедам, падрыхтаваным сястрыцтвам. Цікавы рэфэрат на тэму дня прачытаў малады інжынер Ю. Ціпурка. Дакладчык пасьлядоўна вык-

лаў ход гістарычных падзеяў ад часоў гістарычнае Літвы да бяскроўнага праспаду савецкай імпэрыі, калі паўстала сувэрэнная Рэспубліка Беларусь.

Вечная памяць змагарам-патрыётам за волю беларускага народу і яго дэмакратычную дзяржаўнасьць! Слава тым, хто заняў іх рады ў станаўленьні беларускай дзяржаўнасьці! — закончыў свой добра апрацаваны рэфэрат сп. Ю. Ціпурка.

**Мікалай Латушкін**
сакратар БАН Рады ў Чыкага

## СЫДНЭЙ, АЎСТРАЛІЯ

Беларусы Сыднэю і аколіцаў сьвяткавалі Слуцкія ўгодкі ў нядзелю 27 лістапада. У гамэбускай праваслаўнай царкве а. Ігар Хлябіч адслужыў малебен за Беларускі народ і паніхіду па палеглых воінах, што змагаліся за свабоду Беларусі. На заканчэньне хор пад кіраўніцтвам сп. Аўгена Падгайскага цудоўна выканаў «Магутны Божа».

У Беларускім Культурна-Грамадзкім Клюбе ў Файрфільдзе адбылася акадэмія, якую адкрыў старшыня клюбу Міхась Лужынскі кароткім словам і прачытаў прывітальныя лісты і тэлеграмы, у тым ліку вельмі цікавы ліст ад Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына».

Зьместоўны даклад на тэму дня зрабіў кіраўнік і дыктар беларускага радыё сп. Вячаслаў Эльхановіч. Хвілінаю маўчаньня была ўшанаваная памяць загінуўшых за свабоду Беларусі. Гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» закончылі афіцыйную частку.

Гаспадыні пачаставалі прысутных багатым абедам. У царкве і на акадэміі былі спартоўцы з Беларусі, удзельнікі сусьветнага чэмпіянату ў палявым гакеі. Заля клюбу была паўнюсенькая, а ў сяброўскай атмасфэры хутка бег час. Усе шчыра віталі нашых гасьцей. Уздымаліся тосты, першы — за Беларусь. Ад гасьцей прамаўлялі трэнер Кастусь Карыцкі і мэнаджэр Янка Ключановіч. Перад канцом імпрэзы прысутныя сабралі 840 даляраў для нашых спартоўцаў на дробныя выдаткі. За прыгатаваньне смачнага абеду вялікая падзяка належыцца сп-ням Надзі Лужынскай і Мані Супрунчык, а таксама Валі Антух, Валі Спасывай, Лізе Бакуновіч, Валі Марчанка, Шуры Ярашук, Рэні Зуй і Нэлі Боксік. Шчыра папрацавалі і гаспадары: Васіль Марчанка, Барыс Спасывы, Валодзя Пляхоцкі і Мікола Антух. Заплаці Божа! Да наступнае сустрэчы ў Новым Годзе!

**Міхась Лужынскі**

## ПЭРТ, ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ

Угодкі Слуцкага збройнага чыну беларусы Заходняй Аўстраліі сьвяткавалі 26 лістапада ў Беларускім Народным Доме. Службу Божую за тых, што аддалі сваё жыцьцё для Бацькаўшчыны і за супачылых сяброў і сябровак БАуЗА і ўвесь Беларускі народ адправіў а. Уладзімер. Мілагучна гучала служэньне з толькі што атрыманага другога выданьня «Службоўніка». Шчыра дзякуем Мітрапаліту БАПЦ Мікалаю за так добры пераклад «Службоўніка» на беларускую мову.

Афіцыйную частку ўрачыстасьці пачаў старшыня БАуЗА Міхась Раецкі малодшы вітаньнем прыбыўшых на сьвяткаваньне. Былі адыграныя беларускі і аўстралійскі нацыянальныя гімны. Сьпіс супачылых сяброў прачытаў Р.М.; памяць усіх палеглых герояў Беларусі была ўшанована хвілінай маўчаньня.

Прынагодныя вітаньні ад беларускіх арганізацыяў з Мэльбурну і Адэляйды прачытаў сп. Р.М. Затым з дакладам на тэму «Слуцкі збройны чын — сымбаль непераможнасьці імкненьняў беларускага народу да нацыянальнае незалежнасьці» выступіў Р.М., а старшыня БАуЗА М. Раецкі малодшы па-ангельску расказаў прысутным аб значэньні Слуцкага паўстаньня для моладзі і наступных пакаленьняў. Урачыстасьць закончылася пачастункам, за падрыхтаваньне якога належыцца шчырая падзяка сяброўкам БАуЗА.

**Р.М.**

## ТАРОНТА, КАНАДА

Слуцкія ўгодкі Згуртаваньне Беларусаў Канады ладзіла 4 сьнежня. Сьвяткаваньне пачалося багаслужбай у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага. Архірэйскую літургію служыў Мітрапаліт Мікалай у асысьце аа. Міраслава і Васіля. Прыгожыя прынагодныя казаньні сказалі Ўладыка Мікалай і а. Міраслаў. Сьцяжную варту ў часе паніхіды трымалі вэтэраны вайны са шматлікімі ўзнагародамі на грудзях.

У часе акадэміі на тэму дня сымбалічны сьпіс Герояў Беларусі прачытаў вэтэран італьянскай кампаніі апошняй вайны сп. Кастусь Акула. Заля адказвала на кожны сказ: «Загінулі за волю Бацькаўшчыны». Пасьля хвіліны цішыны быў супольна адсьпяваны жалобны марш «Сьпі пад курганам герояў».

На адрас ЗБК прыйшло некалькі прынагодных прывітаньняў: ад БНФ «Адраджэньне», ЗБС «Бацькаўшчына» зь Менску, клііўлендзкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, ад Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі ды іншых.

Даклад на тэму дня прачытаў сп. Мікола Ганько. У дакладзе быў зроблены націск на 200-гадовае змаганьне беларускага народу за сваю дзяржаўнасьць і недахоп ведаў пра гэта. Таксама была зьвернута ўвага на нястачу помнікаў сапраўдным героям Беларусі на беларускай зямлі.

Урачыстасьць закончылася агульным сьпевам беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**М.Г.**

*З жыцьця ў Заходняй Аўстраліі*

## ПАМЯЦЬ ПРА ЗМАГАРОЎ ЗА СВАБОДУ

Сусьветная Ліга Свабоды (СЛС) — арганізацыя, да якое належаць прадстаўнікі народаў, дзе панавала ці пануе далей насільле. Дзейнымі сябрамі СЛС у Заходняй Аўстраліі зьяўляюцца беларусы. У дзейнасьці лігі яны заўсёды бяруць актыўны ўдзел.

У нядзелю 9 кастрычніка заходняаўстралійскі аддзел СЛС ушанаваў памяць усіх, хто аддаў жыцьцё за волю свайго народу. У склад беларускай дэлегацыі, што брала ўдзел у мерапрыемстве, уваходзілі: старшыня БАуЗА М. Раецкі малодшы, сакратар А. Мароз малодшы, П. Дарэўскі, Марыя Мароз і прадстаўнік беларусаў у Заходняй Аўстраліі — Р.М.

Нацыянальныя групы са сваімі сьцягамі сабраліся ля помніка каралеве Вікторыі ў Кінгс-Парку, адкуль калёнай, якую ачольваў сакратар СЛС П. Чэканаўскас, прайшлі да помніка Невядамаму Жаўнеру. Там адбылося ўскладаньне вянкоў. Беларускі вянок быў зроблены з жывых белых і чырвоных кветак і сымбалізаваў наш нацыянальны сьцяг, на чырвоным колеры якога віднеўся надпіс "Bielarus". Па заканчэньні складаньня вянкоў, ганаровая варта пачала зьніжаць аўстралійскі сьцяг, а сьцяжныя нацыянальных групаў — свае. Хвілінай маўчаньня ўшанавалі памяць тых, што аддалі жыцьцё за волю свайго народу. Адбыўся мітынг, на якім сп. Чэканаўскас сказаў прынагодную прамову ды падзякаваў усім за выкананьне пачэснага абавязку.

**Р.М.**

## НА ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў НАМЕСЬНІКА КАРАЛЕВЫ Ў АТАВЕ

Канадыйская Рада Шматкультур'я (КРШ) атрымала 13 сьнежня летась свой гэрб, які быў уручаны Яго Эксцэленцыяй Р. Гнатышынам, намесьнікам каралевы ў Канадзе, старшыні Рады сп. Дру Ціпіўніку. Урачыстасьць адбылася ў палацы Рыдо Голь у прысутнасьці прадстаўнікоў 38-х нацыянальных групаў, якія творац КРШ. Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, які належыць да КРШ ад часу свайго заснаваньня ў 1980 годзе, прадстаўляла сп-ня Івонка Сурвілла.



*Намесьнік каралевы Канады Р. Гнатышын гутарыць зь Івонкай Сурвілла. Фота: Бэртран Тыбо, Рыдо Голь.*

## ПАСТАВІЛІ БЕЛАРУСЬ НА СУСЬВЕТНЫ ЎЗРОВЕНЬ

У Сыднэі ад 22 лістапада да 5 сьнежня летась адбываўся сусьветны чэмпіянат палявога гакею, у якім бралі ўдзел Аргентына, Аўстралія, Беларусь, Бэльгія, Вялікабрытанія, Галяндыя, Гішпанія, Індыя, Карэя, Нямеччына, Пакістан і Паўдзённая Афрыка. У змаганьні за магчымасьць выйсьці на сусьветную арэну Беларусь перамагла Узбэкістан, Казахстан, Украіну і Расею. Беларуская дружына складалася з 20 асобаў ды была адзінай славянскай камандай. Трэба было быць фанатыкам, каб спадзявацца на выйгрыш беларусаў. У Беларусі ёсьць тры клюбы гэтага спорту, тады калі ў Сыднэі іх больш за сто. Калі ў Індыі і Пакістане палявы гакей ведамы на працягу стагодзьдзяў, дык у Беларусі ён пачаўся ў 1983 годзе. Індыя і Пакістан маюць па два мільёны ігракоў, а Беларусь ўсяго сто. Які вялікі камплімэнт быў для беларусаў, калі яны прайгралі канчальнаму чэмпіёну, Пакістану, з вынікам 2:0. Наагул у шасьцёх матчах беларусы забілі чатыры галы, а ўпусьцілі 16.

Нашы спартоўцы правялі ў Сыднэі 21 дзень і зрабілі вялізарнейшую рэкляму для Беларусі. Сыднэйскіх беларусаў ахапляла радаснае пачуцьцё гордасьці й павагі, калі яны глядзелі на беларускі сьцяг, што лунаў над сыднэйскім штатавым стадыёнам разам са сьцягамі ўспомненых адзінаццацёх дзяржаваў. Сыднэйскія беларусы ахвотна прымалі й кватэравалі нашых спартоўцаў. Тут належыць падзяка спсп. Міхасю Ляўдару, Міхасю Мілеўскаму, Міколу Антуху, Аўгену Падгайскаму, Жоржу Радзевічу, Валянціну Стукачу, Віктару Ліпскаму, Несьцеру Ярашуку.

Сябры! Да сустрэчы на сыднэйскай Алімпіядзе ў 2000 годзе! **Міхась**

## ДРУК БЕЛАРУСІ: РАСЕЙСКА- І БЕЛАРУСКАМОЎНЫ

Паводле Міністра культуры і друку Анатоля Бутэвіча, у Беларусі ў сьнежні летась было зарэгістраваных 703 пэрыядычныя ваданьні. Зь іх 404 недзяржаўныя. Толькі 147 выданьняў, сказаў Бутэвіч, выходзяць на беларускай мове. («Звязда», 24.12.94).

## КАЛЯДОЎШЧЫКІ



Малодшыя сябры парафіі Божай Маці Жыровіцкай, што ў Гайленд-Парку, падтрымалі сёлета традыцыю калядаваньня. Ходзячы з зоркай ад хаты да хаты і сьпяваючы калядныя песьні, яны віталі гаспадароў з нараджэньнем Хрыста. На здымку: калядоўшчыкі на кватэры сп-ва Б. Даніловічаў. Зьлева: Генадзь Дубяга, С.Т., Марыя Тарысі, Аня Леанюк, Пятро Скепка. *Фота А. Крыштаповіча*

## ДАРАГІЯ СУАЙЧЫНЬНІКІ!

Даўгім і пакутным быў шлях Беларусі да незалежнасьці. Тысячы, дзесяткі і сотні тысячаў нашых продкаў пралілі сваю кроў на гэтым шляху да волі, да годнага існаваньня беларускага народу, і гэтым самым увайшлі ў несьмяротнасьць, бо працягваюць саё жыцьцё ў нашых сэрцах, у нашай удзячнай памяці. Мы памятаем вояў Альгерда і Давыда Гарадзенскага, пераможцаў пад Грунвальдам і пад Воршаю, паўстанцаў Касьцюшкі і Каліноўскага. Памятаем мы і герояў Слуцкага збройнага чыну, 74-я ўгодкі якога адзначаем сёлета.

Подзьвіг слуцкіх паўстанцаў, якія, нягледзячы на шматкротную перавагу варожых сілаў, мужна сталі на абарону годнасьці, волі і незалежнасьці Беларусі, ахвяруючы сваім жыцьцём дзеля гэтай высокай мэты, заўсёды будзе для нас прыкладам адданага служэньня Бацькаўшчыне.

Дык са сьвятам Вас, дарагія беларусы! Са сьвятам мужнасьці, годнасьці і славы! Хай памяць пра Слуцкі збройны чын натхняе Вас на новыя зьдзяйсьненьні ў імя нашае роднае Маці — Беларусі.

**Управа ЗБС «Бацькаўшчына»**

*З жыцьця ў Клiўлендзе*

## КАЛЯДНАЯ КУЦЬЦЯ

Парафія Жыровіцкае Божае Маці кожны год 6 студзеня ладзіць супольную куцьцю. Гэтак і сёлета ў пятніцу ўвечары, пасьля багаслужбы ўсе прыйшлі ў царкоўную залю, якая была упрыгожаная: вялікі стол, пакрыты сенам і засланы настольнікам, на ім розныя стравы куцьці, а каля стала — упрыгожаная ялінка. Усе стравы куцьці посныя, іх налічвалася больш як 12, прыгатаваныя жанчынамі. Пе-



*Царкоўная ялінка для дзяцей у Клiўлендзе. Дзеці зь Дзедам Марозам (Міхась Дунец). Фота К. Калошы.*

рад пачаткам вячэры прат. Міхась Страпко коратка расказаў пра традыцыю куцьці, паблагаславіў стол. Усе разам прасьпявалі трапар Раства Хрыстовага й калядкі. Пасьля кожны падходзіў, набіраў сабе стравы й садзіўся за сталы з запаленымі сьвечкамі. Пры гэткіх нагодах часта старэйшыя парафіяне ўспамінаюць, як яны ладзілі куцьцю на Бацькаўшчыне. Вячэра нармальна канчаецца сьпяваньнем беларускіх калядак. Так парафія ў Клiўлендзе ладзіць супольную куцьцю, што дае прысутным калядны настрой і яднае іх.

## ЯЛІНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

У нядзелю 8 студзеня, на другі дзень Калядаў, у царкве Жыровіцкае Божае Маці была адслужана сьв. літургія з прысутнасьцю дзяцей. Пасьля службы адбылася ялінка для дзяцей, якую штагоду ладзіць парафіяльная рада ў царкоўнай залі. Рада закупляе падарункі для дзяцей ад парафіі (у веку ад 1 году да 13), апрача гэтага бацькі ці хросныя прыносяць падарункі ад сябе.

Кароткую праграму ўрачыстасьці адкрыла старшыня парафіі Оля Дубаневіч (МкДэрмот). Прыйшоў Дзед Мароз (Міхась Дунец), які пагутарыў зь дзяцьмі, раздаў ім падарункі. Усе дзеці сабраліся каля Дзеда на сцэне і прасьпявалі дзьве калядкі на ангельскай мове, а царкоўны хор пад акампанімэнт Федзі Паўлаўца і разам з прысутнай публікай прасьпяваў шмат беларускіх калядак. Праграма закончылася пачастункамі для дзяцей і старэйшых.

**К.П.**

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

## ЗАПУСНЫ АБЕД

У нядзелю 27 лістапада парафія Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку ладзіла запусны абед перад Піліпаўскім постам. Царква напоўнілася вернікамі, парафіянамі й гасьцямі. Прыгожая багаслужба ды сьпеў хору стварылі ўрачыстасьць, сьвяточны настрой.

Настаяцель парафіі мітр. прат. Васіль Андрэюк, адкрываючы ўрачыстасьць, коратка падзяліўся ўражаньнямі з паездкі на сваю радзіму, Беласточчыну. Ён быў расчараваны павольнасьцю эканамічнага адраджэньня краіны, але задаволены актыўнасьцю ў царкоўным жыцьці.

Сп. В. Русак, які працуе над тэмай «Родная мова ў Беларускай Царкве», коратка выказаўся на гэтую тэму ў пэрыядзе ад 9-га ст., калі сьвятыя Кірыла й Мэтод злажылі славянскі альфабэт і пашлі прапаведаваць хрысьціянства ў Маравію, да 16-га ст., калі Францішак Скарына выдаў у Празе у 1517 годзе «Псалтыр» і ў наступных двух з палавінаю гадох — Біблію на царкоўнаславянскай мове. Біблія гэта мела вялікую прымешку беларускіх слоў у галоўным тэксьце, а яе ўступныя й канчальныя разьдзелы былі напісаны добрай беларускай мовай. Сяньня працу Скарыны прадаўжае бязутомна Мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мікалай. Нядаўна мы атрымалі новае, другое выданьне «Службоўніка».

І яшчэ на заканчэньне была вялікая неспадзеўка. Валянціна Гладкая, кіраўнічка студэнцкай харавой групы «Неруш» пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, выканала шэраг народных песьняў, і 6-гадовая дачка сп-ва Яўтуховічаў, Валерыя, паказала сваё ўмельства ў сьпеве.

**Р.Б.**

## СПАТКАНЬНЕ З БУРМІСТРАМ ГАЙЛЕНД-ПАРКУ

У аўторак 6 сьнежня адбылося чарговае спатканьне духавенства гор. Гайленд-Парку з бурмістрам гораду Джэймсам Полёсам. Прысутнымі былі каля дванаццаці асобаў духавенства розных веравызнаньняў. Парафію Божай Маці Жыровіцкай прадстаўлялі яе настаяцель а. прат. Васіль Андрэюк; на спатканьні быў таксама сп. В. Русак, сакратар парафіяльнай рады.

Сп. Полёс, як добры гасадар ды адміністратар гораду, клапоціцца пра ўсё, ды асабліва дабро рэлігійных установаў. Дыскутаваўся шэраг пытаньняў як, напрыклад, транспартацыя для старэйшых асобаў ды большы ўдзел у духовым жыцьці гораду. Была выказна думка, каб наладзіць імпрэзу пад знакам веры ў Бога — імпрэзу, што злучае ўсіх ды нікога ня выключае.

## ФЭСТЫВАЛЬ КАЛЯДНЫХ ЯЛІНАК

Як і папярэднімі гадамі, беларусы Нью-Джэрзі ўзялі ўдзел у фэстывалі ялінак, што ўжо шосты раз ладзіцца Амэрыканска-Мадзярскай Фундацыяй у Нью-Бранзьвіку. Сёлета дванаццаць нацыянальных групаў узялі ўдзел у фэстывалі. Ялінку дэкаравалі сп-ня Галіна Русак і сп. Сяргей Трыгубовіч. Беларуская ялінка, як і заўсёды, адзначалася далікатнасьцю дэкарацыі. Адкрыцьцё фэстывалю мела месца ў нядзелю 4 сьнежня ў прысутнасьці прадстаўнікоў мясцовых уладаў, прэсы ды прадстаўнікоў нацыянальных групаў. Былі выступы хору і прыняцьце для гасьцей.



*Новае пакаленьне амырэканцаў у залі царквы Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку знаёміцца зь беларускімі калядными традыцыямі.*

*Фота А. Сільвановіча.*

## ДЭМАКРАТЫ Ў ДВУХ БЛЁКАХ

Напярэдадні парляманцкіх выбараў (14.5.1995) дэмакратычныя арганізацыі Беларусі аб'ядналіся ў два блёкі. У адзін уваходзяць БНФ, Сацыял-дэмакратычная грамада, Нацынал-дэмакратычная і Сялянская партыі, Хрысьціянскія дэмакраты. У другі — Партыя народнай згоды, Грамадзянская і Аб'яднаная дэмакратычная партыі.

Такі раскол у лягеры дэмакратаў можа паўплываць на выніку выбараў.

*(«У плыні часу». Штотыднёвы інфармацыйны лісток аб асноўных падзеях у Беларусі для беларусаў замежжа.* Выд. ЗБС «Бацькаўшчына», Нр. 10, 18-24.01.1995)

## ЯКОГА ПРЭЗЫДЭНТА...

*(Заканчэньне з 3-й ст.)*

Пераможа той, хто ўсю сваю перадвыбарчую праграму пабудуе на спэкуляцыі сацыяльнымі бедамі нашых людзей, на сацыяльнай дэмагогіі».

І вось беларускі «бацька з палкай» загаварыў. На сустрэчы з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацыяў 26 сьнежня летась, Прэзыдэнт Лукашэнка назваў «змовай» спробу некаторых рэдактароў апублікаваць тэкст крытычнага ў дачыненьні да лукашэнкаўскае «каманды» дакладу дэпутата Сяргея Антончыка ў Вярхоўным Савеце. Гаворачы пра рэдактароў, якія хочуць друкаваць ня толькі пахвалу ўраду, але і крытыку, Прэзыдэнт сказаў:

«Я-ж ім дараваў усё пасьля прыходу. Тады яны мне сказалі: **«Дзякуй, бацька, родны, дзякуй»**, а сёньня ўжо ў трэці раз стварылі, учынілі правакацыю».

Вышэй прыведзеное выказваньне ўзятае з новае кнігі Н. Гілевіча «Талісман» (Менск, выдавецкі цэнтр «Бацькаўшчына», 1994. 224 ст.). Кніжка — зборнік вершаў і прамоваў — вельмі вартасная, цікавая, лёгка чытаецца, мае ў сабе шмат унікліых назіраньняў ды красамоўнае абароны беларускае культуры і дзяржаўнасьці.

**А.Б.**

## СУДЗЯЦЬ АЎТАРА ПАЭМЫ

Пракуратура Беларусі пачала судовую справу супраць «Ведзьмака Лысагорскага» (псэўданім няведамае асобы) за яго вершаваны твор «Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт», які «закранае гонар і годнасьць Прэзыдэнта Беларусі». («Нар. газ.», 12.01.95)

## ВОЛЬГА КОРБУТ УЗНАЧАЛІЦЬ БЕЛАРУСКУЮ АЛІМПІЙСКУЮ ДЭЛЕГАЦЫЮ

Ньюёркская газэта «Новое Русское Слово» (5.01.95) зьмясьціла паведамленьне ІТАР-ТАСС пра згоду Вольгі Корбут узначаліць беларускую спартовую дэлегацыю на летнія алімпійскія гульні, што адбудуцца ў 1996 годзе ў амэрыканскім горадзе Атлянце.

В. Корбут, піша газэта, ачольвае беларуска-амэрыканскі фонд аховы здароўя дзяцей, які пляную пабудаваць дзіцячы шпіталь у Менску. Неўзабаве маюць адбыцца сустрэча яе ў Белым Доме з Прэзыдэнтам Клінтанам і першай лэдзы, якія зацікавіліся ейнай дзейнасьцяй.

# МАГЧЫМА ВЫГРАЦЬ ПРАВА НА ЎЕЗД У ЗША

Амэрыканскі закон 1990 году дазваляе выдачу штагоду 55 тысячаў візаў на сталае пасяленьне ў ЗША. Візы выдаюцца лятарэйным спосабам і разьмяркоўваюцца на шэсьць розных рэгіёнаў сьвету, у тым ліку на Эўропу, а гэта значыць і на Беларусь.

***Сёлетнія заявы мусяць быць атрыманыя адпаведнай амэрыканскай ўстановай паміж 31 студзеня і 1 сакавіка 1995 году.***

Заявы павінны быць аформленыя строга паводля ўстаноўленае формы. Найменшы адыход ад нормы будзе ўневажняць заяву. Летась, прыкладам, было прыслана каля 7 мільёнаў 300 тысяч заяваў, але зь іх паўтара мільёна былі ўняважненыя дзеля тае ці іншае недакладнасьці.

**Якія вымогі ад заяўніка?**

- Трэба мець асьвету, якая адпавядае ўзроўню амэрыканскай сярэдняй школы (12 гадоў навучаньня) або
- два гады працоўнага стажу на працягу апошніх пяцёх гадоў у нейкім занятку, які вымагае найменш два гады вышкаленьня ці працоўнай практыкі.

Прымяняцца тут будуць стандарты амэрыканскага Міністэрства працы. Пасьветчаньне аб адукацыі далучаць ня трэба, высылаючы дадзеныя пра сябе (і сям'ю). Яно спатрэбіцца пазьней, калі будзе зроблены выбар.

**Як падаваць заяву?**

- Падаваць заяву можна толькі ад АДНАЕ асобы. Але ў выпадку сям'і можа падаваць муж (далучаючы дадзеныя пра жонку і дзяцей) і, асобна, жонка (падаючы дадзеныя пра мужа і дзяцей). Калі падаюць асобныя заявы абое, дык шансы на выйгрыш, зразумела, большыя.
- Пасыланьне больш як аднае заявы ад тае самае асобы ўняважніць заяву.
- Няма акрэсьленага ўзору заявы. Трэба проста на чыстым аркушы паперы напісаць на машынцы ці выразнымі літарамі ад рукі, ангельскім альфабэтам, дадзеныя пра сябе:

1. ПРОЗЬВІШЧА І ІМЯ (спачатку — прозьвішча, тады — імя; прозьвішча трэба падкрэсьліць). Прыкладам: **Veshchak, Anton**
2. ДАТА (дзень-месяц-год) НАРАДЖЭНЬНЯ. Прыклад: **15 November 1961** МЕСЦА (горад, вобласьць, краіна) НАРАДЖЭНЬНЯ. Прыклад: **Baranavichy, Brest, Belarus.**
3. ПРОЗЬВІШЧА І ІМЯ ЖОНКІ (або мужа) І ДЗЯЦЕЙ (калі ёсьць). Калі хто будзе выбраны, дык ягоныя/ейныя нежанатыя дзеці да 21 году жыцьця і жонка/муж змогуць таксама падаць на візу.
4. ПАШТОВЫ АДРАС ЗАЯЎНІКА. Адрас павінен быць выразны і поўны, паколькі на яго будзе высылацца паведамленьне пра выбар ды інструкцыя што да далейшых фармальнасьцяў. Калі ёсьць хатні тэлэфон, карысна (але не абавязкава) яго падаць.
5. НАЗВАЦЬ КРАІНУ ПРАЖЫВАНЬНЯ, КАЛІ ЯНА РОЗЬНІЦЦА АД КРАІНЫ НАРАДЖЭНЬНЯ.

*Ніякіх іншых вымогаў няма, каб зарэгістравацца на шанс атрымаць візу. Падпісваць заяву ня трэба.*

Прыклад пераліку асобаў сям'і Вешчак (з датаю і месцам нараджэньня), якая пражывае пад адрасам:

Беларусь, 22056, Мінск
вул. Спартыўная 24-6

Veshchak, Anton
12 July 1959
Minsk, Belarus

Veshchak, Vera
6 April 1962
Homel, Belarus

Veshchak, Andrej
23 February 1986
Minsk, Belarus

Veshchak, Halina
25 March 1989
Minsk, Belarus

vul. Spartyunaja 24-6
Minsk, 22056
Belarus

Як і каму высылаць заяву?

- Пасылаць трэба звычайнай або паветранай поштай. Ня будуць прымацца заявы пасланыя заказным, экспрэсам, факсам ці якім іншым спосабам, што вымагае спэцыяльнага абыходжаньня.
- Памеры канвэрта не павінны перакрочваць 15–20 цм (6-10 цаляў) даўжыні і 9–11 цм 3 $^1/_2$–4 $^1/_2$ цалі) шырыні (гл. рысунак).
- На канвэрце ў верхнім левым розе трэба напісаць краіну свайго нараджэньня, прозьвішча і адрас.
- Недатрыманьне пададзеных інструкцыяў уняважніць заяву.
- Падайце правільны паштовы код свайго месца жыхарства.

Прыклад заадрасаванага канвэрта:




Не пазьней як 1 ліпеня 1995 г. камп'ютар зробіць выбар надаўгад спасярод залічаных заяваў, і тыя асобы, што будуць выбраныя, атрымаюць паведамленьне поштаю на адрас пададзены ў заяве. Нявыбраным асобам паведамленьне пасылацца ня будзе. (Пасольствы і консульствы ЗША ня змогуць сказаць, хто выбраны.)

Выбраныя асобы змогуць падаць заяву на візу і атрымаюць інструкцыю што да далейшых фармальнасьцяў. Іхныя жонкі/мужыкі і непаўналетнія дзеці змогуць таксама падаваць на візу. Заяўнікі, каб атрымаць візу, мусяць адпавядаць усім вымогам, якія ставіць амэрыканскі закон.

**Важная заўвага:**

Каб падаць заяву на ўезд у ЗША, не вымагаецца ніякае платы. Напісаць заяву можна самому або зь нечыяй дапамогай — гэта справа заяўніка. Кваліфікаваныя заявы, атрыманыя беспасярэдня ад заяўніка ці праз пасярэдніка, будуць мець аднолькавыя шансы на ўдачу. **А.С./Я.З.**

## АБВЕСТКА

Летась у сьнежні ў выдавецтве «Мастацкая Літаратура» ў Менску выйшла з друку кніга

***«ЗМАГАРНЫЯ ДАРОГІ»***

**раман Кастуся Акулы**

у цьвёрдай вокладцы, мастак А.І. Цароў, рэдактар Ул. Арлоў, 572 бачыны.

Першы раз Акулаў раман «Змагарныя Дарогі» быў выдадзены ў 1962 годзе ў Мюнхэне і Таронце, быў вельмі прыхільна сустрэнуты чытачамі ў вольным сьвеце.

У цяперашнім выданьні зь Менску, у анатацыі ад выдавецтва, сказана: «Раман вядомага пісьменьніка беларускага замежжа Кастуся Акулы прысьвечаны лёсу Беларусі і беларусаў у гады другой сусьветнай вайны, віхура якой на паўстагодзьдзя разлучыла аўтара з Бацькаўшчынай. Камусьці яго погляды і ацэнкі могуць здавацца спрэчнымі, але ў любым выпадку чытачу будзе цікава пазнаёміцца са сьведчаньнямі чалавека, што бачыў вайну знутры і заслужыў за барацьбу з гітлераўцамі баявыя ўзнагароды».

Акулаў раман выданы ў сэрыі «Галасы Беларускага Замежжа».

У Беларусі кніга павінна быць на продажы ў кнігарнях.

У Злучаных Штатах і Канадзе кніга, зь перасылкай, каштуе 30 даляраў. Замаўляць ад аўтара. Ягоны адрас:

Mr. K. Akula, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.,
M4K 1C2, Canada

---

**Леанід Пранчак. БЕЛАРУСКАЯ АМЭРЫКА.** Мінск, выд. «Полымя», 1994. 416 ст. Ілюстрацыі каляровыя і чорна-белыя. Тыраж 3000 экз.

Паэт і журналіст Леанід Пранчак (дзед якога жыў некалі ў Амэрыцы, а тады, вярнуўшыся дамоў, так і застаўся на Беларусі) малым хлапцом яшчэ захапіўся далёкім заакіянскім краем і толькі апошнімі гадамі дачакаўся магчымасьці пабыць у Амэрыцы ды на свае вочы пабачыць тое, пра што расказваў аднавяскоўцам дзед і пра што сам Леанід лятуцеў даўгі час. Падарожніцкі энтузіязм, журналісцкая дапытлівасьць і працавітасьць Пранчака далі добры плён — ёмістую, багата ілюстраваную і добра апрацаваную кнігу, якая толькішто выйшла з друку.

У атанацыі да кнігі сказана:

«Беларус і беларусы ў сьвеце, фэнамэн беларускага замежжа — так можна сфармуляваць тэму гэтай кнігі. Грамадзкія дзеячы, літаратары, бізнэсмэны, рабочыя, музыканты — прадстаўнікі самых розных пластоў беларускай дыяспары ў ЗША расказваюць пра сябе, пра тое, як жывуць у Амэрыцы нашы суродзічы. ...

«Пададзены творчыя партрэты дзеячоў беларускае культуры ў ЗША, а таксама рэдкія дакумэнты, якія дапамогуць лепш зразумець погляды і жыцьцё нашых суайчыньнікаў, што па волі лёсу апынуліся далёка ад бацькаўшчыны».

З дакумэнтальных матар'ялаў у кнізе зьмешчаныя, між іншага, статуты некаторых арганізацыяў, рэзалюцыі, адозвы, у тым ліку статут Рады БНР, рэзалюцыя 20-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі і інш.

Кніга мае прыгожую (цьвярдую) каляровую вокладку. (Шкада, што няма ў ёй паказьніка прозьвішчаў). На яе будзе вялікі попыт як на Беларусі, гэтак і ў Амэрыцы. Выдавецтва «Полымя» пашкадуе, што ня выдала яе большым тыражом.

Як стала ведама рэдакцыі «Беларуса», сп. Леанід Пранчак, які знаходзіцца цяпер у Злучаных Штатах, у штаце Нью-Джэрзі, працуе над новай кнігай пра беларусаў Амэрыкі. Жадаем яму плёну ў працы і ўдачы ў жыцьці. **Я.З.**

## РУСЫФІКАЦЫЙНАЯ ДЫСПРАПОРЦЫЯ

«Працэс нахабнай русыфікацыі працягваецца: на сёньняшні дзень на 94 асобнікі рускамоўнай пэрыёдыкі прыпадае толькі 6 беларускамоўных. Думаю, што ў тэле- і радыёэфіры суадносіны яшчэ горшыя». — Ст. Шушкевіч, «Знамя юности», 10.01.95.

## ДА ЧЫТАЧОЎ

### Новая цана «Беларуса»

Выдавецтва газэты «Беларус» і галоўная ўправа БАЗА, разгледзеўшы фінансавы стан і ўлічыўшы падвышаныя апошнім часам кошты выдаваньня і рассылкі газэты, прыйшлі да вымушанае пастановы падняць на 1995 год гадавую падпісную цану з 25 да 30 даляраў. Калі хто падумае, што 30 даляраў надта шмат, нагадваем, што падпісацца ў Амэрыцы на тыднёвую газэту зь Менску каштуе 130 даляраў.

Адначасна зьвяртаемся да ўсіх прыхільнікаў з просьбай заставацца і надалей шчодрымі ў сваіх ахвяраваньнях на «Беларуса», менскае выданьне якога патрэбнае асабліва сёньняшнім часам, цяжкім і няпэўным для нацыянальнага адраджэньня.

**Адміністрацыя «Беларуса»**

## BELARUSIAN REVIEW

**Vol. 6, No. 4, Winter 1994/95**

На 24-х старонках, багатых зьместам, чытач знойдзе актуальны матар'ял пра важнейшыя палітычныя, эканамічныя ды іншыя падзеі як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў замежжы, асабліва ў Амэрыцы.

У перадавіцы рэдактар Джоў Прайс апісвае місію «Агляду» і яе выкананьне на працягу шасьцігадовага выхаду квартальніка, заклікае беларускія грамадзкія арганізацыі аказаць падтрымку часапісу ў так патрэбнай інфармацыйнай дзялянцы дзейнасьці на эміграцыі.

У рубрыцы пра важнейшыя падзеі падаецца інфармацыя пра падпісаньне Амэрыкай, Расеяй і Англіяй пратаколу аб гарантыі незалежнасьці і дзяржаўных межаў Беларусі.

У рубрыцы «Думкі і заўвагі» Арт Турэвіч робіць агляд падзеяў у Беларусі за 1994 год, выказвае думкі аб тым, чаго можна спадзявацца ў 1995 годзе. У гэтай-жа рубрыцы зьмешчаны ліст сп. Коллінса зь Дзяржаўнага Дэпартаманту ў адказ на пытаньні, пастаўленыя ў гутарцы зь ім беларуска-амэрыканскай дэлегацыяй у кастрычніку летась. У артыкуле Дж. Прайса разглядаецца пытаньне амэрыканскай палітыкі ў дачыненьні да Расеі і рэспублік былога Савецкага Саюзу.

У іншых рубрыках зьмешчаныя: артыкул Дубаўца «Інтэграцыя з Расеяй»; праграма Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў на 1995 год; тры артыкулы пра эканоміку; чарнобыльскія справы; праект дзіцячай дэнтыстычнай клінікі ў Менску; артыкул В. Сенькевіча і В. Русака пра Раду БНР; артыкул Тышкевічыхі пра няправільнае ўяўленьне сьвету аб Беларусі; весткі зь Беларусі; выпісы з замежнай прэсы пра Беларусь; лісты ў рэдакцыю.

Адрас: Belarusian Review, P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505, USA. Fax No. (310) 373-0793

### ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Ад шчырага сэрца віншуем Вас і Вашыя сем'і
са сьветлымі Калядамі і Новым 1995 годам!
Хай Бог дасьць Вам здароўя, радасьці, шчасьця і доўгіх-доўгіх гадоў плённага творчага жыцьця!
Хай Вашая адданая праца на карысьць роднае Маці-Беларусі,
шчыльна палучыўшыся з працаю ўсіх нашых суайчыньнікаў,
дзе-б яны ні жылі, прывядзе да сапраўднай свабоды, да
годнага існаваньня нашае Айчыны!
Са сьвятам Вас, дарагія сябры!

**Управа Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»**
**5.12.1994 г.**



### СЬВЯТОЧНЫЯ ВІНШАВАНЬНІ

***І НАЙЛЕПШЫЯ ПАЖАДАНЬНІ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ***

*ўсім сваім прыяцелям і знаёмым перасылаюць:*

*Найдзюк Юзя і Чеслаў*
*Сьнежка Валя і Мікола*

**Рэдакцыя «Беларуса» з удзячнасьцяй адзначае, што сьвяточныя прывітаньні ёй прыслалі:**

*Губэрнатар штату Ілінойс Джым Эдгар зь сям'ёй*
*Газэта «Голас Радзімы»*
*Тыпаграфія Any Phototype*
*Вячаслаў Ельхановіч, кіраўнік беларускамоўнай праграмы аўстралійскай радыястанцыі SBS*



7 студзеня 1995 г. пасьля цяжкай хваробы памёр ведамы беларускі грамадзкі дзеяч і эміграцыйны архівіст

**МІКОЛА ПАНЬКОЎ**

Нарадзіўся 12.VI.1911 г. у Люцыне (Латвія), памёр у Брукліне, Н.-Ё., пра што з сумам паведамляюць

*Сябры*

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| М. Абрамчык | ам. дал. 100 |
| В. Балтрушэвіч | 60 |
| В. Траскевіч | 50 |
| European Home Made Provisions | 50 |
| Гал. упр. БАЗА | 50 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Б. Гуцько | 40 |
| М. Такушэвіч | 40 |
| Я. Сапежынскі | 40 |
| П. Нядзьвецкі | 30 |
| Я. Азарка | 30 |
| З.К. | 30 |
| К. Шыкалюк | 30 |
| П. Нягода | 30 |
| Я. Бурдзь | 30 |
| Г. Дубяга | 30 |
| Я. Яновіч | 30 |
| А. Непейн | 30 |
| С. Трыгубовіч | 30 |
| К. Кумэйша | 25 |
| В. Пашкевіч | 25 |
| Э. Пітушка | 25 |
| Я. Піцэвіч | 25 |
| А. Філістовіч | 25 |
| М.К. | 25 |
| Л. Гутырчык | 20 |
| У. Машанскі | 20 |
| М. Грэбень | 20 |
| М. Ханяўка | 20 |
| М. Прускі | 20 |
| М. Сьнежка | 20 |
| В. Рамук | 20 |
| Разам | 1.070 |

*Ахвяры з Клīўленду праз сп. К. Калошу:*

| | |
|---|---|
| Аддзел БАЗА | ам. дал. 50 |
| Аддзел Беларускіх Вэтэранаў | 50 |
| Бел. Жаночае Згурт. | 50 |
| Грамадзкі Цэнтар Полацак | 50 |
| Царква Жыровіцкае Божае Маці | 100 |
| Кананчук Тацьцяна | 20 |
| Каханоўская Іна | 25 |
| Лукашэвіч Оля | 20 |
| Сяргеевіч Васіль | 20 |
| Ханенка Янка | 20 |
| Яраховіч Астап | 20 |
| Усяго | 425 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Клīўлендзе сп. А. Стрэчаня:*

| | |
|---|---|
| а. М. Страпко | 25 |
| У. Каваленка | 40 |
| К. Калоша | 100 |
| К. Матальіцкі | 40 |
| С. Махахей | 30 |
| Т. Кананчук | 25 |
| Ю. Ягоўдзік | 30 |
| Я. Раковіч | 25 |
| А. Яраховіч | 30 |
| А. Сацэвіч | 30 |
| А. Стрэчань | 50 |
| О. Стрэчань | 50 |
| М. Стрэчань | 50 |
| В. Яцэвіч | 50 |
| П. Даймон | 25 |
| Я. Ханенка | 30 |
| А. Пракаповіч | 25 |
| В. Стрэчань | 50 |
| С. Карніловіч | 30 |
| Бел. Жан. Згурт. | 60 |
| О. Дубаневіч | 50 |
| За паасобнікі газэты | 200 |
| Кошт рассылкі | 15 |
| Усяго | 1060 |

*Перасланая беспасярэдня ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Ул. Сенька (зь Нямеччыны) | ам. дал. 20 |
| І. Ільчук | 50 |
| І. Рэйнэс | 25 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. М. Лужынскага ў Сыднэі ў Аўстраліі:*

| | |
|---|---|
| М. Лужынскі | аўст. дал. 109 |
| С. Нарушэвіч | 100 |
| М. Мілеўскі | 100 |
| М. Антух | 60 |
| Л. Бакуновіч | 60 |
| М. Бакуновіч | 60 |
| А. Бакуновіч | 60 |
| В. Ліпскі | 60 |
| Л. Парэцкі | 60 |
| В. Русак | 60 |
| А. Хаванская | 60 |
| У. Радзевіч | 60 |
| Усяго | 849 |

У амэрыканскіх далярах атрымана 643,25. Як ахвяра на «Беларуса» ад сп. Лужынскага запісаная сума 109 аўстр. дал., выдаткаваная на рассылку газэты у Аўстраліі.

*Ад нашага прадстаўніка ў Мэльбурне ў Аўстраліі сп. Р. Шайпака:*

| | |
|---|---|
| В. і Р. Шайпак | аўст. дал. 70 |
| сп. Кукель | 50 |
| Т. Лашук | 50 |
| М. Швэд | 35 |
| З. Кадняк | 50 |
| У. Сідлярэвіч | 50 |
| П. Гуз | 45 |
| Я. Яшчэнка | 50 |
| М. Нікан | 35 |
| Я. Барысевіч | 45 |
| Л. Яцкевіч | 50 |
| А. Груша | 50 |
| Я. Стасевіч | 45 |
| В. Каралюк | 35 |
| За паасобнікі газэты | 20 |
| Усяго | 710 |
| У ам. дал. | 486 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. У. Акавітага ў Адэляйдзе ў Аўстраліі:*

| | |
|---|---|
| В. Мілянцэвіч | аўст. дал. 50 |
| П. Пачопка | 50 |
| У. Акавіты | 50 |
| а. М. Бурнос | 50 |
| А. Садоўскі | 50 |
| А. Руткевіч | 50 |
| У. Зелянеўскі | 50 |
| З продажу | 30 |
| Усяго | 380 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. М. Баяроўскага ў Англіі:*

| | |
|---|---|
| Ф. Верамейка | ам. дал. 44 |
| С. Буткевіч | 40 |
| М. Баяроўскі | 40 |
| Я. Міхальчык | 29 |
| П. Грыгальчык | 5 |
| Усяго | 158 |

### АХВЯРАВАНЬНІ НА БІНІМ

| | |
|---|---|
| Др. М. Смаршчок | ам. дал. 100 |
| Др. У. Набагез | 100 |
| Б. Даніловіч | 50 |

### АХВЯРАВАНЬНІ НА БЕЛАРУСКАЕ РАДЭ Ў ПЭРЦЕ (ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ)

| | |
|---|---|
| Др. А. Бразоўскі | аўст. дал. 20 |
| А. Ніжнік | 25 |

### АХВЯРАВАНЬНІ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ

| | |
|---|---|
| А. Сільвановіч | ам. дал. 20 |